# ПАГОНЯ

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць;
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За Тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі Цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх, — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці — Краіна!
Не ўсцішыцца гэтакі боль!..
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь.

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

*МАКСІМ БАГДАНОВІЧ*



АНАТОЛЬ ЦІТОЎ

# НАШ СІМВАЛ · ПАГОНЯ

## ШЛЯХ ПРАЗ СТАГОДДЗІ



МІНСК „ПОЛЫМЯ" 1993

ББК 63.2
Ц 74
УДК 342.228(476)(091)

*Другое выданне*

Мастак А. П. Бажэнаў

Цітоў А.
Ц 74 Наш сімвал — Пагоня: Шлях праз стагоддзі.— Мн.: Полымя, 1993.— 40 с.:іл.
ISBN 5-345-00740-3.

У кніжцы робіцца спроба прасачыць гісторыю Дзяржаўнага герба Беларусі Пагоня ад вытокаў да сённяшняга дня.

Разлічана на шырокае кола чытачоў — усіх, хто цікавіцца нацыянальнай і гістарычнай сімволікай.

Ц $\frac{0502000000 - 029}{M 306 (03) - 93}$ БЗ 127 — 93 ББК 63.2

ISBN 5-345-00740-3



# ЗМЕСТ



Масавае выданне

*Цітоў Анатоль Кірылавіч*

**НАШ СІМВАЛ — ПАГОНЯ**

Заг. рэдакцыі *Л. І. Круглова*
Рэдактар *Т. Л. Шумейка*
Мастацкі рэдактар *У. М. Якунін*
Тэхнічныя рэдактары *М. А. Шабальская, С. І. Старавэрава*
Карэктар *А. В. Алешка*

Падпісана да друку з арыгінал-макета 03.10.93. Фармат 84x60 1/16. Папера афсетная. Гарнітура "Балтыка". Афсетны друк. Ум. друк. арк. 2,32. Ум. фарб.-адб. 3,01. Ул.-выд. арк. 2,3. Тыраж 25000 экз. Выд. № 9160. Зак. 453.

Выдавецтва "Полымя" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 432. 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220115, Мінск, Каржанеўскага, 20.

## ПРАДМОВА

Адным з галоўных атрыбутаў дзяржаўнасці з'яўляецца ГЕРБ. Чым ён старажытней, тым складаней ягоная гісторыя, вельмі часта ўпрыгожаная рознымі легендамі, паданнямі. Герб наогул мае дзве асноўныя функцыі: *рэпрэзэнтацыйную* — таму што прадстаўляе, адлюстроўвае праз пэўную сімволіку як гістарычныя абставіны свайго ўзнікнення, так і тую асобу, горад, народ ці дзяржаву, якой належыць; *распазнавальную* — гэта значыць з'яўляецца распазнаўчым сімвалам, што аб'ядноўвае пэўную супольнасць людзей ці народ, якія ім карыстаюцца, і вылучае гэтую супольнасць (народ) сярод астатніх. У такім аспекце галоўная задача герба — быць лёгка распазнавальным і добразапамінальным.

Як вывучэннем гербавай спадчыны, так і стварэннем новых гербаў займаецца геральдыка. Яна ляжыць на мяжы паміж строга фармалізаванай навукай са сваімі законамі, правіламі і выключэннямі і мастацтвам, якое падпарадкоўваецца гэтым законам.

Як навука геральдыка ўзнікла ў XIII ст. Яна падзяляецца на дзве галіны: практычную, якая аб'ядноўвае ў сябе правілы гербастварэння, і тэарэтычную. Апошняя займаецца вывучэннем гісторыі гербаў, самімі гербамі, што размешчаны на пячатках, манетах, гістарычных помніках і іншых рэчах. Пры яе дапамозе даследчык праз герб дазнаецца аб уладальніку, стваральніку той ці іншай рэчы або дакумента, аб часе іхняга ўзнікнення, іх лёсе і г. д.

Шматвекавая гісторыя нашага герба Пагоня губляецца ў сівой даўніне. Гэты герб з зямельнага, тэрытарыяльнага стаў гербам нацыянальным, дзяржаўным.

У гэтай кніжцы прыведзены ўзоры беларускіх пячатак і іншых іканаграфічных матэрылаў, на якіх прадстаўлены герб Пагоня. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што яны адрозніваюцца па стылю выканання. На выявах можна сустрэць як постаць князя ці рыцара, так шэраговага воя. Адзенне ездакоў, іхняе ўзбраенне таксама розняцца: ад рыцарскага панцыру і прылбіцы да каскі і канфедэраткі, ад меча да шаблі. Гэта тлумачыцца або часам стварэння малюнка, або пануючым мастацкім стылем, тагачасным узбраеннем, ці нават узроўнем майстэрства і густам рэзчыка пячатак ці мастака. Але пры ўсіх адметнасцях выяў сутнасць, ідэя — захоўваюцца! Гэта — "муж дарослы, гатовы бараніці сваю бацькаўшчыну".

У час шматгадовай работы над кніжкай аўтару вельмі часта прыходзілася сутыкацца з неразуменнем і нежаданнем паняць значнасць дадзенай праблемы, але няхай гэта застанецца на сумленні тых устаноў і асоб, якія свядома ці несвядома перашкаджалі ў працы. Таму прыемней выказаць падзяку за дапамогу начальніку Галоўнага архіўнага Упраўлення Беларусі А. М. Міхальчанка, мастаку Ул. Я. Крукоўскаму, старшыні Украінскага геральдычнага таварыства А. Грэчыле.

## Вытокі сімвала

Узнікненне і замацаванне герба Пагоня на беларускіх землях і пераўтварэнне яго ў нацыянальны сімвал адбывалася не адразу і гэта не быў нейкі аднахвілінны акт. Існуе шмат розных версіяў аб паходжанні герба "рыцер збройны з мечамі на кані", але кожная з іх быццам імкнецца абвергнуць астатнія, пакідаючы толькі за сабой правы на поўную вычарпальнасць і дакладнасць *.

Наш старадаўні сімвал Пагоня выспяваў у глыбокай старажытнасці і адлюстроўваў умовы жыцця нашых далёкіх продкаў. Адпаведна з рознымі летапіснымі дадзенымі, ён фіксуецца ўпершыню ў канцы XIII — пачатку XIV ст. Прыкладна ў гэты перыяд, ці нават раней, постаць вершніка пачынае фіксавацца і ў іншых помніках, якія зберагліся насуперак бязлітаснаму часу. Хаця, бясспрэчна, сама ідэя мае больш далёкія вытокі.

Выява ездака, як адна з найбольш улюбёных эмблематычных і мастацкіх тэм, з глыбокай старажытнасці размяшчалася на пячатках, манетах, гемах і г. д. Такое стаўленне да яе не з'яўляецца выпадковым. З таго моманту, як чалавек сеў на каня, ён набыў новыя якасці: павялічваў сваю моц і хуткасць перасоўвання ў прасторы і перавагу над пешай асобай, што не магло не знайсці свайго адлюстравання ні ў тагачаснай свядомасці, ні ў мастацтве.

Адным з найбольш старажытных сведчанняў распаўсюджання выявы ездака з'яўляецца грэка-пярсіцкая пячатка, якая датуецца пятым стагоддзем да нашай эры. На ёй — выява коннага палявання на лісу. Гэты ж матыў прысутнічае і на пячатках старажытнага Парфянскага царства (на тэрыторыі Сярэдняй Азіі) у II—I ст. да н. э. Сцэну бітвы двух ездакоў знаходзім таксама на сасанідскіх пячатках пачатку нашае эры. Вядомы факты ўжывання сімвала ездака ў Баспорскім царстве і на лепшых творах скіфскага злотніцтва.

Як піша вядомы польскі даследчык геральдыкі і сфрагістыкі С. К. Кучынскі, "пячатка з коннай выявай выступае ў сфрагістыцы князёў і феадальных уладальнікаў на захадзе Еўропы ўжо ў XI ст. Пазней, да з'яўлення гербавых

* Нам здаецца, што ўзнікненне і фарміраванне сімвала дзяржавы, нацыі не можа быць актам, строга абмежаваным у кароткім храналагічным адрэзку. (Аднак за апошнія 70 гадоў мы былі сведкамі неаднаразовых падзей, у выніку якіх ствараліся гербы, што сёння ўжо не маюць свайго працягу ў гісторыка-храналагічнай прасторы. Народы, якім яны прымусова навязаны, з энтузіязмам і натхненнем адмаўляюцца ад іх, вяртаючыся да чыстых, не забруджаных ідэалагічнымі догмамі крыніц сваёй уласнай *Гісторыі*. Тое ж робім і мы, беларусы.)

пячатак, конная постаць была найбольш частым выяўленчым матывам пячатак княжацкіх і ўсяго рыцарства. Рыцар на кані, які крочыць ці бяжыць галопам; у зброі з прапарцом ці мечам, разам з тарчам у руцэ — быў іканаграфічным эквівалентам выразу dux (князь).

У звычаях эпохі выява рыцара-ўладальніка на кані адыграла ролю сімвала гатоўнасці да бітвы за заслугоўваючую справу (у разуменні рыцарскага кодэкса гонару), і ў гэтым значэнні яна адбівалася на манетах і пячатках. Такім самым чынам уяўлялі і заступнікаў рыцарства — архангела Міхаіла, св. Юр'я, а таксама св. Маўрыцыя.

Рыцарская выява выступае ў дзвюх іпастасях: рыцарскай (вой у поўным узбраенні гатовы ўступіць у бітву) і, радзей, паляўнічай... У працах французскіх даследчыкаў падкрэсліваецца, што ў XIII — пачатку XIV ст. пячаткі конныя, якія паходзяць з леваўзбярэжных тэрыторыяў Рэйну, павернуты ў правы бок, а з правабярэжных — яздок накіраваны ўлева. Гэтай заўвагі не варта пераацэньваць, таму што падобныя адрозненні тлумачыліся звычаямі эпохі і часта залежалі ад "сфрагістычнай моды".

Слушнай з'яўляецца, на думку С. К. Кучынскага, "...заўвага І. Ілгена аб тым, што конныя пячаткі былі шырэй распаўсюджаны на захадзе і паўночным захадзе Нямеччыны, а пешыя выявы пераважаюць на поўдні і ўсходзе..."

На пячатках польскіх князёў конная выява прынята ў другой палове XII ст., а на манетах нават у XI ст. Засваенне польскай княжацкай сфрагістыкай гэтага сімвала знайшло адлюстраванне яго ў XIII і пазнейшых стагоддзях і паўплывала на крышталізацыю герба Літвы — Пагоня [1].

Поўнасцю адносяць у патэнцыял заходнееўрапейскай геральдыкі вытокі герба Пагоня сучасныя савецкія даследчыкі А. Стуканаў і В. Касмылёў, якія падкрэсліваюць нямецкакрыжацкія ўплывы на працэс станаўлення і генезісу гэтага герба і прыпісваюць яго паходжанне літоўскай (жмудзінскай. — *А. Ц.*) традыцыі [2]. Але, усё сказанае вышэй толькі адзін аспект узнікнення герба Пагоня, і, як нам здаецца, не вырашальны.

Развіццё ў цэнтры крывіцкіх земляў новай формы дзяржаўнасці, якая будавалася папярэдне на Полацкіх і Новагародскіх землях, набыло з цягам часу новую назву — Вялікае княства Літоўскае.

Юрыдычнае прызнанне дзяржаўнасці ВкЛ можна звязаць з каранацыяй Міндоўга ў 1253 г. у Новагародку. Пазней у 1323 г. сталіца княства пераносіцца ў Вільню. Цікавым з'яўляецца і той факт, што першай назвай гэтага старажытнага места — цэнтра беларускай цывілізацыі — бы-

ла Крывы горад (г. зн. горад, заснаваны крывічамі), або Крывіцкі горад. Згадаем радкі з беларуска-літоўскага летапісу: "и поиде князь Витовт к городу к Вилни и со своими воинами... нача добывати Кривого города, пушками бити и взят град Крывии..." [3].

Славянскія вытокі Вялікага княства Літоўскага падкрэсліваліся і К. Марксам, які пісаў: "Русь была тады падзелена на дзве дзяржавы: Маскву і Літву" [4]. Такім чынам, у XIII—XIV стст. існавалі два цэнтры, якія канкурыравалі паміж сабой за права аб'яднання славянскіх зямель, і спачатку тое лепей давалася Вялікаму княству Літоўскаму. Варта таксама памятаць, што падмуркам эканамічнай і вайсковай моцы гэтае дзяржавы былі менавіта беларускія землі, таксама як і беларуская мова была дзяржаўнай, а культурныя традыцы сінтэзавалі ў сябе як грэчаска-візантыйскія, так і лаціна-еўрапейскія плыні.

Вельмі каштоўным сведкам з'яўляецца гісторык XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі, які, яшчэ раней, пішучы аб славянскіх народах, адзначаў:

"...Русічы і іншыя рускія народы імя і назву сваю маюць ...усе славянскую мову ўжываюць і ўсе есць хрысціянамі. Ведлуг абрадаў — ёсць вялікая частка грэчаскіх — яко Масква, Беларусічы, Літоўцы (Litewcy), Балгараве, Басьнякі, Сербы і г. д. Другія ведлуг наукі рымскага святога касцела яко Палякі, Мазуры, Чэхі, Мараўцы, Харваты, Далматцы, Паморы, Шлензаны, Карынты, Шчірыйцы, Рагусы і іншыя шмат народаў Славянскага рускага языка ўжываючых" [5]. Як бачым, тэрмін "рускія" ўжываецца тут у дачыненні да ўсіх славян, а "літоўцы" — прымяняльна да праваслаўнага насельніцтва. Вядома, што сучасныя літоўцы пераходзілі з паганскага веравызнання адразу ў каталіцызм. На нашай жа тэрыторыі праваслаўнае вызнанне звязана было толькі са славянскім (беларускім) этнасам. Калі адбываліся ўрачыстасці, прысвечаныя тысячагоддзю хрышчэння Русі, адзначалася шасцісотгоддзе хрышчэння Літвы (у сучасным тэрытарыяльным сэнсе).

Той жа старажытны гісторык падкрэсліваў, што "летапісы таксама ўсе літоўскія, па-руску пісаныя, якія Літва старадаўняя за хронікі ўжывае..." [6]. У гэтых летапісах і знаходзяцца першыя пісьмовыя звесткі аб гербе Пагоня.

У Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай гаворыцца, што "Наримунт, яко старший будучи (над ягонымі братамі. — *А. Ц.*) в Великом князстве Литовском пановал. Той Наримунт мел герб, або клейнот, рицерства своего таковый, и тым печатовался, Великому князству Литовскому заставил его, а то такий: в гербе муж збройный, на коню белом, в полю червоном, меч голый, як бы кого гонючы держал над головою, и есть оттоля названы погоня" [7].

Шэраг хронік-летапісаў таксама паўтараюць дадзеныя звесткі. Гісторык XIX ст. Т. Нарбут датуе абранне Пагоні 1282 г.

Густынскі летапіс прыпісвае гэтую акцыю іншаму князю — "в лето 6786 (1278 г.)... Витен нача княжети над Литвою измысли себе герб и всему княству Литовскому печать: рыцер збройны на коне з мечем, еже ныне наричут Погоня" [8].

Тут варта заўважыць, што летапісец памылкова крыху зрушыў храналогію падзей: справа ў тым, што Віцень — рэальна існаваўшая асоба, але княжыў у 1295—1316 гг. Адпаведна з некаторымі летапіснымі крыніцамі, якія, праўда, таксама даюць пэўны храналагічны зрух, Віцень з'яўляецца ў шостым ці сёмым калене прамым нашчадкам Ізяслава — сына полацкай князёўны Рагнеды і кіеўскага князя Уладзіміра Святога. Ягоны ці то дзед, ці прадзед Давід Расціславіч быў прызваны ў лета 6637 (1129 г.) вільнеўцамі на прастол [9]. Гэтая звестка цікавая яшчэ і тым, што анулюе правы сына (па іншых крыніцах — брата) Віценя-Гедыміна лічыцца заснавальнікам у 1323 г. "места Віленскага".

Іншыя летапісныя крыніцы ўказваюць на тое, што герб Пагоня быў прыняты паводле ініцыятывы Рыманта-Васіля, сына Тройдзена (ці Пройдзена), які з'яўляецца і бацькай усё таго ж Віценя. Васіль і параіў апошняму, значыць брату, перамяніць герб па прыкладу вышэй згаданага Нарымунта, які пакінуў свой герб "братии своей", а сабе "уделал герб — человека на кони з мечом, а то знаменуючы через тот герб пана дорослого, хто бы мог боронити мечом отчизны своее" [10].

Як бы там ні было, але ўсе летапісныя крыніцы з большай ці меншай ступенню храналагічнай дакладнасці фіксуюць гэтую падзею 70—90-мі гг. XIII ст. Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць, што з гэтага часу герб Пагоня замацоўваецца ў якасці рэпрэзэнтацыйнага сімвала за прадстаўнікамі, якія ажыццяўляюць паўнамоцтвы вярхоўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім.

Але гэты сімвал стаў бы звычайным дынастычным гербам, калі б ён не быў шчыльна звязаны з умовамі жыцця і міфалагічнай традыцыяй народа, які жыве на гэтае зямлі. У іншым выпадку яго б чакаў той жа лёс, што напаткаў падобны ў заходнееўрапейскіх краінах. Там, нягледзячы на ягоную шырокую распаўсюджанасць у XI—XIII стст., ён не набыў новую якасць зямельнага, дзяржаўнага і нават нацыянальнага герба, а застаўся толькі канстатацыяй прыналежнасці ўладальніка пячаткі да вяршыні феадальнай іерархіі.

Сама ідэя пагоні зыходзіла са звычая, вобраза жыцця ў тыя старасвецкія часы. Даследчык М. А. Ткачоў адзначае, што з канца XIII ст. да 1410 г. крыжакі больш як 140 разоў

нападалі на Літву і Беларусь, а з 1474 па 1569 г. на Украіну і Беларусь зрабілі 75 наездаў крымскія татары [11]. Такім чынам, умовы жыцця вымушалі народ знаходзіцца ў бесперапыннай гатоўнасці да абароны. Гэтага патрабуе і вялікакняжацкі ліст да абываццеляў ад 20 лютага 1387 г., у якім гаворыцца: "Згодна са старадаўнімі звычаямі, ваенны паход з'яўляецца абавязкам, які выконваецца за кошт уласных магчымасцей і сродкаў, у тым выпадку, калі ўзнікае неабходнасць праследаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых... У праследаванні ворагаў, якое па народнаму завецца *пагонею* (падкрэслена намі.— *А. Ц.*), павінны ўдзельнічаць не толькі рыцары, але і кожны мужчына, які можа насіць зброю, якога б не быў паходжання і стану" [12]. Звяртае на сябе ўвагу ў гэтым дакуменце тое, што ўдзел у пагоні мусяць прымаць не толькі рыцарскія колы, чыё жыццё было падпарадкавана толькі вайсковай службе, а *ўсе* незалежна ад "паходжання і стану". Наступнай прычынай, што вельмі істотна паўплывала на выбар сімвала, з'явілася грэка-візантыйская традыцыя, з якой вельмі шчыльна былі звязаны так званыя "літоўскія" князі. Прынятце яшчэ ў даўялікакняжацкі перыяд хрысціянства ўсходняга (праваслаўнага) абраду спрыяла развіццю шырокіх культурных кантактаў усходнееўрапейскіх княстваў — Полацкага, Смаленскага, Тураўскага, Кіеўскага з Канстанцінопалем (Царградам). З ідэямі хрысціянства прыйшлі адсюль імёны і міфалагічныя ці рэальныя фігуры грэка-візантыйскага пантэону. Адной з іх з'яўляецца постаць святога Георгія (Юр'я), пакутніка і пераможцы. Адпаведна з паданнем, ён паходзіў са знатнага каппадакійскага роду, займаў высокае становішча ў грамадстве і войску, але склаў з сябе паўнамоцтвы і пасля цяжкіх васьмідзённых катаванняў быў пакараны смерцю. Існуе шмат старадаўніх жыцій і паданняў аб дзейнасці і цудах св. Георгія. Яго культ шырока распаўсюджаны не толькі ва ўсіх хрысціянскіх краінах Еўропы, але і на мусульманскім Усходзе, дзе яго завуць Кедэр. У старой Еўропе ён быў заступнікам рыцарства, а ў славянскіх землях лічыўся не толькі воем, але і заступнікам земляробства і жывёлагадоўлі — нездарма імя Георгіос азначае — земляроб. Яго традыцыйная іканаграфія — рыцар з дзідай на кані, ля ног каня забіты цмок.

Нельга не згадаць яшчэ аб адной постаці, якая ўвайшла ў свядомасць насельніцтва Усходняй Еўропы,— гэта святы Дзмітры Салунскі, які лічыўся заступнікам славянства. Грэкі нават тлумачылі ўзяцце Царграда (Канстанцінопаля) у пачатку X ст. кіеўскім князем Алегам не мужнасцю і высокай вайсковай вывучкай яго войска, а заступніцтвам і падтрымкай іх св. Дзмітрыем. Варта адзначыць, што

пасля гэтае перамогі сярод гарадоў, якім Царград плаціў даніну, быў і горад Полацк.

Святы Дзмітры быў воінам і правіцелем Салуні (калісь славянскае месца ў Македоніі, а зараз грэчаскі горад Саланікі, адсюль, між іншым, родам і славянскія першаасветнікі Кірыла і Мяфодзі), ягоныя атрыбуты — вайсковае ўзбраенне, дзіда, меч.

У сувязі з постацямі св. Юр'я і св. Дзмітрыя цікавым з'яўляецца паведамленне ўжо згаданага Мацея Стрыйкоўскага. Ён пісаў: "Алег... даўшы мір Цэзару Грэчаскаму... пакінуў там шчыт, альбо герб з таркам патомству на ўспамін. А той герб подобны паміж іншымі старажытнасцямі такога кшталту, як і зараз Маскоўскі (князь. — *А. Ц.*) ужывае.

Я сам яго (герб. — *А. Ц.*) уласнымі вачыма бачыў у року 1575 над брамай Галацкай перад Канстанцінопалям, па-старасвецку намаляваны... Але тая брама зараз забудавана, толькі герб, намаляваны накшталт Маскоўскай пагоні, добра відаць" [13].

Гэтае сведзецтва старажытнага аўтара вельмі каштоўнае ў тым аспекце, што яно паказвае тагачаснае разуменне гэтага сімвала. Вядома, што не шчыт Алега быў прычынай з'яўлення гэтага герба на Галацкай браме, а, наадварот, культурная традыцыя старажытная Візантыі спрыяла ў пэўнай ступені крышталізацыі як беларускай ("літоўскай"), так і маскоўскай пагоні. Але не толькі іншаземныя культурныя ўздзеянні ўплывалі на свядомасць і фарміравалі вобраз будучых гербаў. Трансфармацыя грэка-візантыйскіх і заходнееўрапейскіх традыцыяў адбывалася і на мясцовай глебе.

Вельмі блізка да Пагоні і маскоўскага ездака размяшчаецца іканаграфія св. Барыса і Глеба. Адпаведна з летапіснымі дадзенымі яны былі сынамі кіеўскага князя Уладзіміра і балгарыні. У 1015 г., паміраючы, Уладзімір паклікаў развітацца сваіх найулюблёнейшых сыноў Барыса і Глеба. Князь Святаполк, які хацеў апанаваць кіеўскі прастол, бачыў у апошніх сваіх супернікаў і загадаў забіць іх. У ноч на 24 ліпеня 1015 г. найміты Святаполка ўздзелі на дзіды князя Барыса і ягонага слугу ўгорца Георгія.

Некалькі месяцаў пазней, 5 верасня, такім жа здрадніцкім чынам быў забіты і яго малодшы брат Глеб. Каля 1071—1072 гг. абодва браты былі кананізаваны праваслаўнай царквой. У летапісах шмат апавяданняў аб цудоўных вызгаеннях, якія адбываліся ля іхняй труны, перамогах, якія атрыманы ад іх імя і з іхняй дапамогай, аб паломніцтвах да іх дамавін. Барыс і Глеб былі самымі папулярнымі святымі, якія пачытаў увесь народ.

Варта згадаць і аб найстаражытнейшым помніку беларускага дойлідства: *Барысаглебскай* (Каложскай) царкве ў Гародне, або аб



Выява конных постацей св. Барыса і Глеба на рэльефах Дзмітраўскага сабора

шматлікіх *Барысавых* каменях з выявамі на іх крыжоў (апошнія, праўда, тэма асобнай працы).

Выявы Барыса і Глеба знайшлі сваё адлюстраванне на старажытных помніках злотніцкага мастацтва, архітэктуры, абразах і г. д. Адным з першых такіх іканаграфічных увасабленняў з'яўляецца Дзмітрыеўскі сабор, узьвіжаны ва Уладзіміры на Клязьме ў 1194—1197 гг. Гэты храм быў пабудаваны Усеваладам III (Бальшое Гняздо), які, між іншым, з'яўляўся нашчадкам Рагнеды і Уладзіміра ў пятым калене. Храм аздоблены багатай разьбой па каменю, з выявамі ільвоў, барсаў, фантастычных птушак, раслін. Сярод іншых рэльефаў-скульптур, што ўпрыгожваюць фасад, ёсць дзве постаці ездакоў. Першы з іх трымае паводзі, другі з мечам, галовы абодвух абкружаны німбамі. Гэта, як мы мяркуем, і ёсць выявы св. Глеба і Барыса.

Амаль падобная іканаграфія зафіксавана і на металёвым кніжным акладзе XVI ст., які зберагаецца ў Суздалі, дзе прадстаўлены дзве конныя постаці Барыса і Глеба. Але знаходкі помнікаў з выявамі гэтых святых звязаны не толькі з тэрыторыяй былога Уладзіміра-Суздальскага княства. У час раскопак у Мсціславі ў слаях XI ст. быў знойдзены медальён з выявай двух конных постацей, узброеных дзідай і мечам, выявамі св. Глеба і Барыса.

І нарэшце, апошняя грань пытання аб паходжанні нашага герба. Думаецца, што Пагоня ніколі б не знайшла водгуку ў сэрцы нашых прашчураў і ніколі [redacted] не стала зямельным, дзяржаўным і нацыянальным сімвалам, калі б правобраз герба не быў шчыльна звязаны з яшчэ дахрысціянскімі міфалагічнымі традыцыямі насельніцтва Беларусі. Яшчэ ў сівыя часы паганства адным з найбольш паважаных ва ўсіх славянскіх народах быў вобраз Ярылы — бога вясновага адраджэння і ўрадлівасці зямлі. Свята Ярылы — свята перамогі жыцця над смерцю, вясны над зімой.

Этнографы мінулага XIX стагоддзя адзначалі: "Успаміны аб Ярыле жывей (з усіх славянскіх народаў. — *А. Ц.*) зберагліся на Беларусі, дзе яго ўяўлялі маладым і прыгожым... які ездзіць на белым кані, на ягоных плячах белая мантыя, на галаве ў яго вянок з палявых веснавых кветак, у левай руцэ ён трымае жытнія каласы", ногі яго босыя. У яго гонар беларусы святкуюць час першай сяўбы (у канцы красавіка). У час свята аб ім спяваліся песні [14].

Медальён, знойдзены падчас раскопак у Мсціславі ў слаях XI ст.



Падагульняючы вышэй напісанае, трэба адзначыць, што на ўзнікненне герба Пагоня паўплываў шэраг фактараў, але кожны з іх паасобку не быў вырашальным. Спалучэнні іх у гістарычным і этнічным кантэксце і было прычынай замацавання і ідэнтыфікацыі герба Пагоня менавіта з беларускімі землямі. Гэта наступныя фактары:

— Атаесамліванне герба Пагоня з постаццю абаронцы Бацькаўшчыны і адлюстраванне самога стылю жыцця народа пад заўсёднай ваен-

най пагрозай у час нараджэння і фарміравання гэтага сімвала.

— Спалучэнне і персаніфікацыя ў гербе Пагоня постацей як св. Барыса з "недалёкага" мінулага, так і з больш глыбокіх культурных пластоў — паганскага Ярылы.

— Уплывы грэка-візантыйскіх хрысціянскіх традыцый і культаў св. Дзмітрыя і св. Георгія. Адаптацыя апошніх на мясцовай глебе і стварэнне пад іх уздзеяннем уласных культаў пакутнікаў-заступнікаў і іхняй іканаграфіі.

— Уплывы (праз прызму польскай і крыжацкай геральдыкі) заходнееўрапейскіх традыцый адлюстравання коннай постаці князя-правадыра на пячатках феадальных іерархаў.

Усе гэтыя фактары разам і кожны паасобку ў пэўнай ступені спрыялі крышталізацыі вобраза — мужа дарослага, збройнага з мечам на кані, гатовага бараніці сваю Бацькаўшчыну "еже ныне наричут Погоня".

## ЛІТАРАТУРА


[1] Kuczyński S. K. Pieczecie Ksiazat Mazowieckich Wyd. PAN, 1978, s. 126 — 128.

[2] А. Стуканов, В. Космылев. Кто же ты, "Рыцар на кане, збройны з мечем?" //Политический собеседник. 1991. № 4. С. 16—21.

[3] ПСРЛ. Т. 35 С. 71.

[4] Цыт. па: Ермалович М. Проникновение в глубины //Неман. 1983. № 11. С. 147.

[5] Stryikowski M., Kronika polska, Litewska, Zmodzka i Wszystkiej Rusi Kijowskiej, Moskiewskiej... Krolewec, 1582, f. 110.

[6] Тамсама, f. 339

[7] ПСРЛ. Т. 32. С. 32.

[8] Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. т. I. с. 70.

[9] ПСРЛ. Т. 7. С. 165, 253.

[10] ПСРЛ. Т. 35. С. 199.

[11] Ткачев М. А. Организация обороны городов Белоруссии XIV—XVII вв.: Автореф. дис. ... д-ра ист. наук. Мн., 1987. С. 3.

[12] Цыт. па: Штыхаў Г. В., Галенчанка Г. Я. Пагоня: [сімволіка старажытнага герба] //Навіны Беларускай Акадэміі. 1991. 11 кастр.

[13] Stryikowski M,. f. 115.

[14] Афанасьев А. Поэтические воззрения славян на природу. М., 1865. Т. 1. С. 441—442.

# РЫЦЕР ЗБРОЙНЫ НА КАНІ

Калі летапісныя звесткі адносяць з'яўленне герба Пагоня да XIII ст., дык фіксацыя іх на іншых помніках, у прыватнасці старажытных беларускіх пячатках, датуецца XIV ст. Гэтая з'ява, на нашую думку, тлумачыцца не дастатковай вывучанасцю як гэтага віду помнікаў, так і самога перыяду XIII пачатку XIV ст., часу ўзнікнення на Новагародскіх землях самога Вялікага княства Літоўскага.

Трэба канстатаваць той факт, што ідэя коннай пячаткі шырока распаўсюджваецца не толькі на Захадзе, але і на землях паўночнаўсходняй Еўропы. Першымі сфрагістычнымі






Пячатка Аляксандра Неўскага (правы бок, № 376)

Пячатка кн. Дзмітрыя Аляксандравіча (правы бок, № 384)



Беларускі вершнік — вой, паводле нямецкага малюнку XVII ст.





Пячатка кн. Андрэя Аляксандравіча (правы бок, № 388)

Пячатка пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча, 1515 г.

помнікамі такога тыпу, якія можна датаваць з высокай ступенню дакладнасці, з'яўляюцца пячаткі Аляксандра Неўскага (1236—240; 1241—1263). Вядома пяць пячатак [1], якія належалі яму, на ўсіх ёсць выява коннай постаці, узброеннай мечам. На трох з іх свецкая выява, і, як робіць сапрыпушчэння Е. Каменцава, гэта — выява самога князя, а на двух — патранальны, ці аднайменны святы—св.Аляксандр [2]. Адрозніваюцца гэтыя пячаткі наяўнасцю на свецкай выяве кароны на галаве ездака, і німба і імя святога на двух апошніх. Прыкладна тое ж мастацкае вырашэнне зафіксавана і на пячатках сыноў Аляксандра: Дзмітрыя (1276—1281; 1283—1284) і Андрэя (1281—1283; 1294—1304). Першы карыстаўся пячаткай на якой прысутнічала выява тэзаіменнага св. Дзмітрыя, пры гэтым адзначым, што ў адным варыянце (№ 384) гэта яздок з німбамі і дзідай, у іншых — яздок з німбам і мечам. Толькі надпіс на пячатцы дазваляе спалучыць абедзве гэтыя выявы з адной постацю—св. Дзмітрыя. Пячаткі другога брата — Андрэя маюць на сябе выяву сакольніка [3]. Усе яны каштоўныя тым, што па часу свайго ўжывання амаль цалкам супадаюць з паведамленнямі беларуска-літоўскіх летапісаў аб абранні герба Пагоня. Такое супадзенне ўскосна пацвярджае факт існавання ў XIII ст. гэтага сімвала на Полацкіх, Віцебскіх і Навагародскіх землях, што мусіць накіроўваць даследчыкаў на пошук прамых, а не ўскосных свядзецтваў.





Пячатка кн. Дзмітрыя Данскога

Пячатка полацкага кн. Глеба, 1330 г.

"Пячатку Міндоўга" з выявай Пагоні, якая фігурырue ў гістарычнай літаратуры, мы пакідаем па-за ўвагай, таму, што лічым яе фальсіфікатам канца XIX ст., на што паказваюць яе стылёвыя асаблівасці. На сёння вядома з літаратуры [4] толькі тронная пячатка Міндоўга, якая мае выяву караля, які сядзіць на троне. Яна прыкладзена да дагавора 1255 г. паміж Міндоўгам з крыжакамі.



Пячатка князя Дзмітрыя Карыбута, 1386 г.

Іншы сюжэт мае пячатка полацкага князя Глеба, што замацоўвае дагавор паміж Полацкам і Рыгай у 1330 г. На ей выява ездака, якая бліжэй да іканаграфіі св. Дзмітрыя, св. Юр'я ці св. Глеба, чым да класічнай Пагоні. Але сцвярджаць, што апошні сюжэт у гэты час не выкарыстоўваўся ў такім сэнсе, небяспечна: надта слаба вывучана сфрагістыка гэтага перыяду. Мы схільны бачыць на апошняй пячатцы выяву тэзаіменнага святога.

Выява рыцара збройнага на кані зафіксавана на пячатцы Вялікага князя Ягайлы, што ўжывалася, на думку М. Гумоўскага, у 1377—1386 гг. На ёй выява ездака павернута ў левы геральдычны бок, што аб'ядноўвае яе па стылю з большасцю пячатак гэтага перыяду, і ў пэўнай ступені з выявай ездака на рэльефе Дзмітраўскага сабора ў Уладзіміры на Клязьме. Але гэта не адзіная ягоная пячатка. Пасля Крэўскай уніі Якаў-Ягайла атрымаў "пасаду" караля Польшчы. Пасля пераходу з праваслаўя ў каталіцызм ён быў ахрышчаны Уладзіславам. Набытыя новыя пасада і імя вымагалі і змены пячаткі. На пячатках, выкананых з вялікім майстэрствам у гатычным стылі, постаць караля, які сядзіць на троне, вакол выявы гербаў зямель, суверэнам якіх ён з'яўляецца. Як адзначаюць шматлікія даследчыкі, асоба на троне амаль партрэтнае падабенства з Якавам-Ягайлам-Уладзіславам. На пячатках прадстаўлены і герб Пагоня. Апошні трымае Анёл-шчытатрымальнік. Вельмі прымячальна сама кампазіцыя герба: на шчыце выява рыцара збройнага з мечам на кані, а ў конскіх капытоў крылаты цмок. Такое спалучэнне сімвалаў стварае быццам бы нейкую пераходную форму паміж гербам св. Георгі (Юрэй) Пераможца і класічным гербам Пагоня.

Прыкладнай сімволікай карыстаецца, між іншым, і ўнук Гедыміна, Уладзіміра-Валынскі князь, Аляксандр Карыятавіч. Праўда, на ягонай пячатцы гэты сюжэт прадстаўлены ў больш



Пячатка
Вялікага князя Літоўскага
Якава-Ягайлы,
1377 — 1386 гг.

чыстым выглядзе: св. Юрэй забівае дзідай пачварнага змея.

Варта адзначыць і той факт, што, адпаведна з паведамленнем польскага гісторыка Яна Длугаша (1415—1480), у час Грунвальдскай бітвы каля намету Якава-Ягайлы стаяў сцяг з выявай цмока.

Як адзначаюць даследчыкі, сімволіка цмока і змія ў геральдыцы далёка не аднолькавая: першы з'яўляецца ўвасабленнем магутнасці і сілы, а другі — сімвалам цемры і зла. Цмок — гэта адначасова і паўзун, і крылатая істота з вялікай галавой і завостранай, раззяўленай пашчай. Пярэднія лапы яго падобны на арліныя ці львіныя, замест задніх мае тоўсты звівісты хвост. Крылаты змей вельмі падобны на яго, але адрозніваецца тым, што мае яшчэ і заднія лапы [5].

Пячаткі з выявамі ездакоў мелі прадстаўнікі шэрагу княжацкіх і магнацкіх родаў, якія паходзілі з зямель даўняга Вялікага княства Літоўскага. Сярод іх віслая пячатка Дзмітрыя-Карыбута, дзе на адным баку выява ездака з дзідай (інтэрпрэтацыя вобраза св. Дзмітрыя), а на другім — кірылаўскі надпіс "ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ КАРИБУТА". Яна цікавая тым, што спалучае ў сабе грэка-візантыйскія традыцыі праз радкое размяшчэнне легенды (надпісаў) і выяву св. Дзмітрыя, а калі на ёй свецкая выява князя, то і еўрапейскія плыні. Дакладней меркаваць цяжка: атрыбуты супадаюць з адзнакамі святога, але адсутнічае німб вакол галавы.

Сярод іншых прадстаўнікоў правячых родаў, меўшых герб Пагоня, трэба назваць Чартарыйскіх, Сангушкаў, Астрожскіх, Сапег, Алелькавічаў. (Апошнія карысталіся двума сімваламі нават да пачатку XVII ст.: рэпрэзентацыйным гербам Пагоня, але памяталі і аб другім, які ўваходзіў у глыбокія пласты старажытнасці і зліваўся з бортнымі клейнамі або знамёнамі-знакамі, і нагадваў своеасаблівую геаметрычную пабудову з трохкутніка, рысак і крыжа.)

Вельмі цікавай нам здаецца тронная пячатка Вітаўта. Яна зафіксавана на дакументах 1407, 1412—1430 гг. На пячатцы выява самога князя з мітрай на галаве, у правай руцэ берла, у левай — шчыт з дзяржаўным гербам Пагоня.



Пячатка Троцкага кн. Вітаўта, 1383 — 1385 гг.



Вялікая тронная пячатка Вялікага князя Літоўскага Вітаўта, 1407, 1412 — 1430 гг.

Ужо згаданы М. Гумоўскі дае наступную інтэрпрэтацыю гербаў, якія размешчаны вакол постаці князя: тарк з крыжам належыць Валыні, з мядзведзем — Кіеву, з Пагоняй — Вільні і з капейшчыкам — Трокам [6]. Калі з ягонай інтэрпрэтацыяй Валынскага і Троцкага гербаў можна поўнасцю пагадзіцца, дык астатнія выклікаюць пярэчанні. Перш-наперш, Вітаўт насіў тытул і быў Вялікім князем Літоўскім той дзяржавы, што ўзнікла на этнаграфічных беларускіх землях, і ў яго часы ахоплівала славянскія землі ад Віленшчыны на поўначы і да



Малая пячатка Вітаўта, 1418 — 1430 гг.

Чорнага мора на поўдні. Таму вылучаць на дзяржаўнай, троннай пячатцы нейкія асобныя землі, Віленшчыну ці Кіеўшчыну, не было сэнсу, бо ў тыя часы гэтыя землі поўнасцю знаходзіліся пад "юрысдыкцыяй Пагоні". Акрамя таго, шчыт — тарк з выявай гэтага герба паказаны на пячатцы, як бы ў прывілеяваным стане. Вялікі князь трымае яго ў сваёй уздзетай руцэ, што падкрэслівае яго першаснасць у параўнанні [redacted] астатнімі, такая перавага магла быць аддадзена толькі агульнадзяржаўнаму гербу.

Гербы лакальныя (зямельныя) — Троцкі і Валынскі адлюстраваны на пячатцы, як гербы тых рэгіёнаў, з якімі Вітаўт быў звязаны некалькі іншымі стасункамі. Троцкая зямля — гэта спадчыннае валоданне Вітаўта, якое перайшло яму ад яго бацькі Кейстута. Спачатку Вітаўт стаў Троцкім князем і ўжываў пячатку з выявай адпаведнага герба, якім карыстаўся ў 70-ых гг. XIV ст. Пазней, яшчэ не мяняючы тэксту напячатанага надпісу, ён абірае сябе на пячатку сімвал ездака, што сведчыць аб ягоных інтарэсах да велікакняжацкага прастолу. Пячатка з Пагоняй фіксуецца ўпершыню на акце Крэўскай уніі, падпісанай 14 жніўня 1385 г. Вядома, што Ягайла адпаведна з уніяй набываў сабе карону Польскую, а Вялікае княства Літоўскае, на думку Вітаўта, заставалася без гаспадара. Зыходзячы з гэтых меркаванняў, ён загадаў зрабіць пячатку з агульнадзяржаўным гербам.

Пасля падзелу паўнамоцтваў паміж Вітаўтам і Ягайлам заставаліся крыху прыглушанымі польскія прэтэнзіі на Валынь, што вымусіла Вітаўта падкрэсліць сваё ўладарства гэтай зямлёй, выносячы яе герб на дзяржаўную

пячатку. Прыкладна тая ж сітуацыя адбывалася і са Жмуддзю [7]. У 1382 г. ВкЛ страціла сваю юрысдыкцыю над гэтай тэрыторыяй, што пазней было пацверджана Ранціжонскім дагаворам з Крыжацкім ордэнам у 1404 г. Пасля Грунвальдскай бітвы пачаўся працэс далучэння Жмудскіх зямляў да княства. Такім чынам, памяшчэнне Жамойцкага герба на троннай пячатцы (тарк з мядзведзем) было своеасаблівай прапагандысцкай заявай на тэрытарыяльныя прэтэнзіі і дэкларацыяй мэт Вітаўта. Адзначым, што пасля смерці Вітаўта і Ягайлы Ордэн зноў падняў пытанне аб вяртанні яму Жмудзі, атрыманай ім у XIV ст. адпаведна з дагаворамі. Толькі пазней Жмудзь, як асобная тэрыторыя, увайшла ў склад ВкЛ з пэўнымі правамі аўтаноміі і са сваім уласным гербам — "МЯДЗВЕДЗЬ".

Помнікі сфрагістыкі як аб'ектыўны гістарычны матэрыял і больш індывідуалізаваныя старажытныя гербоўнікі надзейна захавалі тагачасны геральдычны зрэз, вартасць якога цяжка пераацаніць, якім бы інтэрпрэтацыям ён не падвяргаўся сёння.

Каштоўным сведчаннем належнасці герба Пагоня да беларускіх этнічных зямляў з'яўляецца вялікая пячатка Жыгімонта Старога. На ёй у цэнтры выява герба Пагоня, вакол іншыя зямельныя і дынастычныя гербы, аб'яднаныя паміж сабой звівістай стужкай, дзе пад



Вялікая пячатка Жыгімонта Старога

першым з выявай арла надпіс на лацінскай мове — PATERN (бацькоўскі), пад другім з выявай паса — MATERN (матчын), пад трэцім з выявай Архангела (Міхаіла?) — KIIENS



Герб Жмудзі — Самагіціі, з гербоўніку 1578 г.

Герб Вялікага княства Літоўскага, з гербоўніку 1578 г.

(Кіеўскі), пад чацвёртым з выявай крыжа — VOLNI (Валынскі) і, нарэшце, пад пятым мядзведзем — SAMAGITIE (Жмудскі).

Такім чынам, названы ўсе галоўныя землі, якія знаходзіліся ў юрысдыкцыі Вялікага княства Літоўскага ў першай палове XVI ст. і, дарэчы, межавалі з ім. У цэнтры якраз і размешчаны герб зямлі, якая аб'яднала ўсе названыя тэрыторыі. Гэта — сучасная Беларусь — колішняе ВкЛ [8]. Адзначым таксама, што і ў тытулатуры гаспадара ўвесь час існавання ВкЛ, а пазней Рэчы Паспалітай падкрэслівалася: Кароль Польскі, Вялікі князь Літоўскі, Рускі (маецца на ўвазе Рускае ваяводства — Львоўшчына.— *А. Ц.*), Прускі, *Жамойцкі...* і г. д. Як бачым, Жмудзь фігурыруе ў тытуле асобна ад ВкЛ, а Беларусь увогуле не згадваецца, хаця менавіта на яе абшарах і знаходзілася гэта самае княства. Адмаўленне ад тэрміна Беларусь тады было вымушанай з'явай. З моманту вызвалення ад мангола-татараў ці нават раней маскоўскія цары, грунтуючыся на генеалагічных сувязях, высоўвалі прэтэнзіі на спрадвечныя беларускія землі, а з XVII ст. нават афіцыйна ўключылі ў свой тытул назвы Белай і Малай Русі. З мэтай перашкодзіць такой, спачатку ідэалагічнай, экспансіі і каб не ствараць прэцэдэнта з чыста палітычных меркаванняў, абодвы гэтыя паняцці інтэнсіўна замяняюцца ў афіцыйным ужытку на Вялікае княства Літоўскае (ці па-простаму Літва) і Украіна, ці Украйна, што значыць "у края Хрысціянскіх земляў", калі глядзець з Захаду. Апошні тэрмін, здаецца, знаходзіць ужытак у дачыненні нават да ўсхода Вялікага княства Літоўскага — паўночнага Падняпроўя.

Традыцыя ўжывання герба "мядзведзь" зафіксавана таксама і ў гербоўніках і ў больш познім аўтэнтычным сфрагістычным матэрыяле. Дарэчы, некаторыя аўтары, пішучы пра харугву жмудскага княства, адзначаюць, што яна мела выявы Пагоні і ў падпарадкаваным да яе стане "чорнага мядзведзя". Варта памятаць і




Пячатка гродзкага суда Жмудскага княства, пав. Расіенскага, канец XVIII ст.



Пячатка кн. Сямёна Альгердавіча, 1388 г.

Пячатка кн. Жыгімонта Кейстуцьевіча, 1411 г.

аб тым факце, што Жамойць у XIV ст. знаходзілася пад уладай Крыжацкага ордэна і толькі пасля вайсковых дзеянняў ВкЛ, якія скончыліся перагаворамі 27 верасня 1422 г. у возера Мельна, Ордэн адмовіўся ад сваіх валоданняў на Жмудзі. З таго часу Жмудзь (сучасная Літва) апынулася на правах аўтаноміі ў складзе ВкЛ.

Вельмі паказальным з'яўляецца ліст упрывілявання, які быў падпісаны ў Вільні "в середу октавы Внебовзяться панны Марыі, року Божого тысяча и чотыриста и девятьдесятого второго" (15 жніўня 1492 г.) Вялікім князем Літоўскім Аляксандрам жыхарам Жамойцкай зямлі. У ім гаварылася: "Во имя Божое, аминь. Ко вечной памяти речи. Мы Александр, з Божее ласки Великий князь Литовский, Руски, Жомойтски... ознамуем через тот наш лист... всим особом... в панстве земли Жомойтское и всих поветах, Медницком, Хрожском, Бедыгольском и иншым там будучим...

I. Напервей хочем, им жадный не мает мовити, альбо на очи истить, иж бы през меч, альбо через оныя валки были звалчонные, але з доброю волею пристали" [9].

Гэты ліст пацвярджаецца і Жыгімонтам Аўгустам у 1569 г. Аналагічны артыкул ёсць і ў канфірмацыйным прывілеі ад 1574 г. месяца красавіка 9-га дня, выдадзенага Генрыкам Валежычам, дзе гаварылася: "Иж продки земли Жомойсткой их милости продком нашим великим князям Литовским сами добровольне под панованье ся поддали, а не мечем, ани кгвалтом до того притеснены, и абы в доброй славе их мнеманья злого нихто чинити не смел..." [10].

Прыведзеныя вытрымкі з дакументаў выклікаюць пытанне: чаму на працягу ста трыццаці гадоў у жмудзінаў узнікала патрэба дамагацца каралеўска-княжацкіх забаронаў на згадванне абставін уваходжання Жмудзі ў склад ВкЛ? Справа тлумачыцца вельмі проста: пануючыя колы прымусова далучанай дзяржавы (панства) апынаюцца ў падпарадкаваным становішчы, а добраахвотна ўвайшоўшыя атрымліваюць роўныя правы. Вынікам гэтых упрывіляваных лістоў Жамойцкай зямлі стала тое, што яе феадалы здолелі з цягам часу адштурхнуць у пэўнай ступені ад улады ў ВкЛ астатніх і заняць пануючую ролю. "...прэтэндуючы на першынства ў дзяржаве, жамойцкія ідэёлагі вырашылі перапісаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага з тым, каб прыпісаць сабе заслугу яго стварэння" [11]. У рэшце рэшт яны дамагліся гэтага і сёння: Літва, літовец атаясамліваюцца не з першапачатковым сэнсам гэтага слова, а з гістарычнай Самагіціяй, Жамойццю ці Жмуддзю, чаму яшчэ больш спрыяла і прысваенне жмудзінамі чужога ім па прыродзе, ад нараджэння славянскага герба Пагоня.

Ужо згаданы раней гісторык Ян Длугаш пакінуў нам вопіс харугваў Вялікага княства Літоўскага, якія ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве ў 1410 г.: "Пяцьдзесят першая харугва Жыгімонта-Карыбута (які быў пляменнікам Ягайлы і сынам Дзімітрыя Карыбута. — *А. Ц.*) мела за сцяг каня з ездаком у зброі на чырвоным полі. Акрамя таго, былі ў літоўскім войску Аляксандра-Вітаўта, Вялікага князя Літвы, харугвы, пад якімі стаялі толькі рыцары літоўскія, рускія, жмудскія, самагіцкія, татары...

Сцягі, назначаныя такім харугвам, былі амаль усе аднолькавыя, таму што кожная мела на штандару рыцера ў зброі, які сядзіць на белым, інколі на чорным, або гнядым, або пегім кані, трымаючы ва ўздзетай руцэ меч на чырвоным полі. Толькі дзесяць з іх мелі іншы сцяг і адрозніваліся ад астатніх трыццаці; на іх на чырвоным полі былі намаляваны знакі, якімі Вітаўт звычайна кляйміў сваіх коней...

Харугвы ж мелі назвы па імёнах зямель літоўскіх, а менавіта: Троцкая, Віленская, Ковенская, Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Навагародская, Берасцейская, Ваўкавыская, Драгічынская, Мельніцкая, Крэменецкая, Ста-

радубская. Некаторыя ж называліся па імёнах літоўскіх князёў, якія па загаду Вітаўта ўзначальвалі іх, а менавіта: Жыгімонта Карыбута, Лугвневіча Сымяёна, Георгія" [12]. Аб тым, хто такі Жыгімон-Карыбут, мы ўжо адзначалі. Наступны з названых у гэтым урыўку — Сымяён — сын Лугвена Ольгердавіча, князя Мсціслаўскага і апошні Георгі — ці то Георгі (Юрэй) Уладзіміравіч — князь Пінскі, ці то Юрэй Міхайлавіч — дваюрадны пляменнік Вітаўта і Ягайлы. Але гэта не галоўнае ў гэтым урыўку, галоўнае тое, што пяро Я. Длугаша фіксуе наяўнасць герба Пагоня і яшчэ аднаго,— якім "Вітаўт клейміл сваіх коней" — Калюмны, адзначаючы пры гэтым большую распаўсюджанасць першага ў параўнанні з другім. Гэта цалкам зразумела, паколькі вайсковыя адзінкі — харугвы — выступалі ад імя ВкЛ, усе яны мелі аднолькавы герб Пагоню, а каб падкрэслівалася індывідуальнасць "кожнай харугвы, расфарбоўка коней была ў кожным асобным выпадку свая, уласная. Трэба думаць, што і самі баявыя штандары адрозніваліся па колерах паміж сабой, але Я. Длугаш, мусіць з-за браку інфармацыі, не паведамляе аб гэтым. Дзесяць астатніх харугваў, упрыгожаных Калюмнамі, або Гедымінавымі слупамі, знаходзіліся ў другой ступені падпарадкаванасці Вітаўту, і іхні прынцып фарміравання быў таксама іншым. Хутчэй за ўсё яны ствараліся па ўласнай



Герб Пагоня з тытульнага аркуша Трэцяга (1588 г.) Статута ВкЛ

ініцыятыве Вітаўта, што і знайшло адпаведнае адлюстраванне ў выяве-эмблеме на штандарце.

Застаецца толькі дадаць, што пасля Грунвальдскай бітвы нага нямецкага салдата не ступала на беларускія землі аж да першай сусветнай вайны.

Традыцыі ўжывання герба Пагоня ў дачыненні да беларускіх земляў, узнікшыя ў глыбокай старажытнасці, знаходзяць сваю легітымізацыю (афармленне праз заканадаўчыя акты) у XVI ст. у найвыдатнейшых помніках беларускай юрыдычнай думкі: Статутах Вялікага кня-




Пячатка земская Рэчыцкага пав.,1635 г.

Пячатка Берасцейскага ваяводства, 1662 г.







Пячатка земская Пінскага пав., 1674 г.

Пячатка канцылярэі земскай каптуровай Пінскага пав., 1733 г.

ства Літоўскага. Гэтых Статутаў было тры: першы ў 1529-ым, другі ў 1566-ым і трэці ў 1588 гг. Усе яны напісаны на беларускай мове, у другім і трэцім ёсць адпаведныя артыкулы, якія падкрэсліваюць дзяржаўнасць беларускай мовы. Статуты аказалі вельмі вялікі ўплыў на развіццё юрыспрудэнцыі не толькі на Беларусі і Літве, а таксама ў Масковіі, Польшчы, Германіі, на Украіне і г. д.

Дзеянне апошняга Статута было прыпынена Расейскім Сенатам толькі праз дзвесце пяцьдзесят год, калі на далучаных да Расеі Беларускіх і Жамойцкіх землях былі ўведзены нормы агульнарасейскага заканадаўства.

У адпаведных артыкулах Другога і Трэцяга Статутаў гаварылася: "Теж мы Господарь даём под гербом того паньства нашого Великого князства Литовского, Погонею, печать до каждого повету..." Такім чынам, былы сімвал, які ўжо набыў моц традыцыі, быў юрыдычна зафіксаваны і замацаваны заканадаўча. Адначасова адбылося ўпарадкаванне ўжывання гэтага спрадвечнага зямельнага герба.

Калі на гістарычнай карце ваяводстваў раскласці іхнія старажытныя зямельныя гербы, то атрымоўваецца, што толькі на этнаграфічныя

Гісторыка-геральдычная карта належнасці гербаў адпаведным землям-ваяводствам



Жмудзь
Інфлянты
Маскоўская дзяржава
Полацкае в-ва
Віцебскае ваяводства
Віцебск
Троцкае ваяводства
Ковна
Трокі
Вільня
Віленскае ваяводства
Прусы
Ліда
Менск
Менскае ваяводства
Магілёў
Мсціслаўскае в-ва
Гародня
Ваўкавыск
Слуцак
Навагрудскае ваяводства
Мазоўша
Берасцейскае ваяводства
Гомель
Мазыр
Бярэсце
Пінск
Люблінскае в-ва
Холмскае в-ва
Сендамірскае в-ва
Валынь
Украіна



"Маскоўская Пагоня",
з кнігі XVII ст.

беларускія землі прыпадзе выява герба Пагоня. Усе суседнія землі маюць іншыя.

Увогуле, старажытныя гербоўнікі (XVI—XVIII стст.) налічваюць ажно пяць разнаітнасцяў герба Пагоня.

Першая, класічная, — у чырвоным полі збройны рыцар на белым кані. Правай рукой яздок трымае ўздзеты над галавой голы меч, а на левым плячы — шчыт з падвойным залатым крыжам. Конь накрыты трохканцовай гунькай. Афарбоўка конскай збруі і шчыта рыцара па найбольш старажытных каляровых малюнках блакітная.

Другая — такі ж яздок, але ва ўздзетай руцэ дзіда, якую ён рыхтуецца кінуць у ворага. Дзеля справядлівасці адзначым, што іканаграфія такога варыянту герба нам не сустрэлася. Вядомы толькі моўныя вопісы. Магчыма, тут ідзе справа аб маскоўскім гербе, дзе воін забівае дзідай змея, ці аб варыянце выявы, калі яздок трымае дзіду ўперавес. Апошніх, заўважым, нідзе, акрамя Ліпнішскага гарадскога герба, пакуль не знойдзена.

Трэцяя — выява голага ездака на кані без сядла, над галавой трымае меч. Такое мастацкае рашэнне Пагоні нам таксама не траплялася, але вядома падобная версія XVII ст. Маскоўскага герба.

Чацвёртая (так званая "Малая Пагоня"), калі на шчыце прыведзены не ўвесь герб, а толькі ягоная асноўная дэталь: збройная рука з голым мечам. Існуе дзве адметныя версіі "Малой Пагоні": галоўнае адрозненне паміж імі ў колеры поля (залатым ці чырвоным) і кленотах (упрыгожаннях на шлемах). У першым выпадку тая ж збройная з мечам рука, у другім — паясная выява пешага рыцара з уздзетым аголеным мечам.

І апошняя, пятая ("татарская Пагоня"), — у зялёным полі яздок, які адстрэльваецца з лука ў сваіх сцігачоў [13].

Класічная Пагоня акрамя пячатак дзяржаўных устаноў была неад'емным атрыбутам дзяржаўных сцягаў (харугваў). Вельмі каштоўным у гэтым аспекце з'яўляецца сведчанне гісторыка, які жыў на мяжы XVI і XVII стст., Аляксандра Гвагніна. У сваёй кнізе "Хроніка Сармацыі Еўрапейскай...", якая была выдадзена ў 1611 г. у Кракаве, ён дае вопісы харугваў ВкЛ:

"Кожнае ваяводства мае сваю харугву, якая на вайне ўжываецца; той жа герб усе правінцыі і паветы, якія ў тым ваяводстве знаходзяцца, на харугвах сваіх носяць. Вялікая харугва ваяводская ёсць о дзвух рогах, павятовая з адным ведлуг звычаю робіцца". Акрамя павятовых, ваяводскіх існавала і агульнадзяржаўная харугва, якая была дзеля разнасці ад іншых "о чатырох рогах і мела шасцьдзесят локцей чырвонай кітайкі з выявамі Пагоні і Панны Марыі з дзіцем — збавіцелем нашым Іесусам панам у Сонцу". Мелася і харугва найвышэйшага гетмана "рыцерства Літоўскага", таксама шырокая а чатырох кутах масці лазуровай". З аднаго боку на ёй была Пагоня, а на другім" выява Святога Станіслава Біскупа Кракаўскага".

Ваяводскія харугвы адрозніваліся ад дзяржаўных акрамя колькасці рогаў яшчэ і памерамі. Віленская была чырвоная "о дзвух рогах трыдцаці і пяці локцей кітайкі маючая, з аднаго боку ў белым полі Вялікага княства Літоўскага герб, а з другога старажытны герб Калюмны". Такія самыя харугвы, але без "Калюмнаў", ужывалі Навагародскае, Менскае і Полацкае ваяводствы. На сцягах апошніх дзвюх выява Пагоні была размешчана ў белым полі. Берасцейскае і Троцкае мелі харугвы "масці лазуровай", а Пагоня размяшчалася ў чырвоным полі. Зялёны колер быў прадстаўлены на харугвах Віцебскага і Кіеўскага ваяводстваў. Пры гэтым




Харугва Троцкага ваяводства, канец XVI ст.

герб Віцебскай харугвы размяшчаўся на белым, а Кіеўскай — на чырвоным полі. Тыя ж колеры адлюстроўваліся і на павятовых, якія, у адрозненне ад папярэдніх, былі аднараговымі.

Вельмі паказальным з'яўляецца змена колераў харугваў пры змене адміністрацыйнай падпарадкаванасці. Ужо згаданы А. Гвагнін пісаў, што "Мазырскі павет адзіны, але багаты ў Кіеўскім ваяводстве карыстаецца харугвай, як і Кіеўскае ваяводства, зялёнага колеру".

У час заключэння Люблінскай уніі (1569 г.) і пераходу "Украінных зямель" пад юрысдык-

цыю Кароны Польскай, мазыране, як і берасцейцы, на сваіх соймах адмовіліся ад гэтае "ласкі" і вырашылі застацца ў складзе ВкЛ. Берасцейскае ваяводства поўнасцю падцвердзіла сваю прыхільнасць да ВкЛ, а з Кіеўскага ваяводства вылучыўся Мазырскі павет, жыхары якога не пажадалі губляць сваёй адметнасці і самастойнасці і зліваціца з Польскай дзяржавай.

Яны засталіся ў родным ім Вялікім княстве Літоўскім, і Мазырскі павет быў далучаны да Менскага ваяводства. Геральдыст XVIII ст. Каспер Нясецкі адзначае, што кожны павет Менскага ваяводства мае ўласную аднарогавую харугву, падкрэсліваючы, што харугва гэтага ваяводства "звычайная пагоня целеснага колеру" а двух рагах.

Абодва гэтыя аўтары паказваюць, што Мсціслаўская харугва была памеранцавага (аранжавага) колеру, а Падляшская, па Гвагніну, аранжавага, а па Нясецкаму, — ужо чырвонага колеру. Тая ж змена адбываецца і з харугвай Берасцейскага ваяводства, калі першы пісаў аб блакітнай харугве, дык другі адзначае яе чырвоны колер, толькі конская бруя і адзенне ездака тут захоўвае блакітную афарбоўку.

Так дзяржаўныя колеры паўплывалі на змену традыцыйных афарбовак выяў Пагоні і харугваў Мазырскага павету і Берасцейскага ваяводства. Але ўжо ў гэты перыяд пачынаюць узнікаць сцягі, якія неслі больш абстрагаваную інфармацыю аб уладальніку, што не пярэчыла ўспрыманню сцяга шырокімі коламі. Веданне правілаў геральдыкі (герба і сцягаўтварэння) было ў тыя далёкія часы адным з крытэрыяў адукаванасці. Таму варта разглядзець некаторыя тагачасныя прынцыпы пабудовы сцяга. Кожны герб можна прадставіць на сцягу некалькімі варыянтамі:

— На палотнішчы , як правіла, нейтральнага колеру малюецца поўнасцю той або іншы герб.

— Колер харугвы супадае афарбоўкай з полем герба (у гэтым выпадку на ёй малюецца толькі выява галоўнай эмблемы без шчыта, а ролю шчыта выконвае сама харугва).

— Адлюстраванне на палотнішчы сцяга колераў асноўных дэталяў герба (эмблемы і поля).

У апошнім варыянце звяртаюцца да прынцыпу сцягаўтварэння шляхам спалучэння гарызантальных палос рознай ці аднолькавай шырыні. Такі прынцып пабудовы сцяга даволі папулярны ў еўрапейскіх краінах.

Адной з першых канструкцый гэтага тыпу, вядомых па іканаграфічных крыніцах, з'яўляецца малюнак 1605 г., на якім паказаны шлюбны ўезд караля Жыгімонта III Вазы і каралевы Канстанцыі ў Кракаў. Захаваліся і аўтэнтычныя помнікі таго часу. Напрыклад, чатырохпалосная харугва Рэчы Паспалітай пачатку XVII ст., якая захоўваецца зараз у Стакгольме (колеры палос чырвоныя і белыя). Збе-

раглася таксама і харугва Менскага кравецкага цэху, зробленая ў 1830 г. На ёй пяць паслядоўных гарызантальных палос з белай і блакітнай тканіны, што цалкам адпавядае каляровай гаме Менскага гарадскога герба. Гэты прынцып пабудовы харугваў знайшоў свой адбітак таксама і ў шэрагу гарадскіх гербаў, нададзеных царскім урадам гарадам Полацкага намесніцтва ў 1781 г., дзе Віцебску зацверджаны герб з выявай Пагоні на паласатым чырвона-белым полі. Гарадок набыў такі ж герб, толькі поле было блакітна-залатое.

Адзначым папутна, што ў Віленскім гісторыка-этнаграфічным музеі знаходзіцца трохкутны сцяжок часоў паўстання Кастуся Каліноўскага, на якім у сярэдзіне, уздоўж белага поля, праведзена чырвоная паласа.

Нам здаецца, што прынцып гарызантальна-палоснай пабудовы сцяга пачаў фарміравацца ўжо ў XVI ст. і ў наступныя стагоддзі стаў характэрным для тэрыторыі Еўропы ўвогуле і Беларусі ў прыватнасці. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што з 34 еўрапейскіх краін 14 маюць менавіта такія сцягі і сярод іх усе славянскія краіны, а таксама тэрыторыі, на якіх славянства было часткова асімілявана або выціснута адтуль ужо ў гістарычныя часы (Венгрыя-Панонія, Аўстрыя і г. д.).

Але вернемся ад сцягоў і харугваў да герба Пагоня. Яго выява, акрамя павятовых, ваяводскіх, была зафіксавана і на пячатках канцылярыі Вялікага княства Літоўскага. Апошнія выразаліся кожны раз новыя пры змене Вялікага князя, а пазней Караля Рэчы Паспалітай. Гэтая ж выява прадстаўлена і на пячатцы замку (гродскага суда) Слуцкага княства. Неардынарнасць апошняга выпадку заключаецца ў тым, што на пячатках такіх устаноў, як правіла, выразаўся прыватны герб канкрэтнага, для кожнай адміністрацыйнай адзінкі, гродскага суддзі. Такім чынам, мы маем факт адлюстравання зямельнага герба ўсяго Слуцкага кня-






Пячатка гродскага суда Слуцкага княства, другая палова XVII ст.

Герб Пагоня з залы пасяджэнняў Сойму Рэчы Паспалітай, малюнак канца XVII ст.

ства, які пазней, пасля далучэння да Расійскай імперыі, быў "аб'яўлены" гарадскім.

Пагоня як зямельны, ваяводскі герб, па сведчанні нямецкіх крыніц, была прадстаўлена сярод іншых у зале пасяджэнняў Сойму Рэчы Паспалітай. Адпаведна ■ апісаннем шчыт герба Віленскага ваяводства быў рассечаны. У правай частцы (калі арыентавацца на асобу, якая трымае шчыт) — Пагоня, левай — Калюмны. Абодва палі блакітнага колеру ў адрозненне ад гарадскога герба, дзе Калюмны былі пастаўлены ў чырвоным полі. Апошні "гарадскі" герб — памылковы. На пячатках Віленскага магістрату XVI—XVIII стст. фігуруе іншы герб выява св. Крыштафа. Яшчэ адзін рассечаны шчыт належаў Падляшскаму ваяводству. У ім у правай, галоўнай, частцы выява польскага герба, а ў левай, сярэбранай, — Пагоня, накрытая блакітнай гунькай. Як вядома, Падляшша было ў 1569 г. анексіравана Каронай Польскай. Таму, згодна з правілам геральдыкі, у знак падпарадкаванасці Пагоня размешчана ў левай, а ў правай, галоўнай, — герб краіны анексатара. Той жа сэнс і ў перасячэнні шчыта, калі ўверсе ставіцца герб краіны — аб'ядноўваючай або заваёўваючай, а ўнізе — краіны падпарадкаванай. Астатнія гербы ваяводстваў ВкЛ мелі шчыт з выявай "Пагоні" і адрозніваліся толькі афарбоўкай. Віцебскае, Берасцейскае, Троцкае, Мсціслаўскае і Навагародскае ваяводствы мелі гербы з блакітным полем, а Менскае і Полацкае — з чырвоным [14].

Але загінула пасля трох падзелаў Рэч Паспалітая, і загінулі гэтыя выявы. Але ідэя герба Пагоня засталася жыць.

### ЛІТАРАТУРА

1 Янин В. Л. Актовые печати Древней Руси X—XV. 387, Т. 2. № 374, 375, 376, 377, 378.

2 Каменцева Е. История и символика герба Москвы //Вестник геральдиста. 1990. № 1.

3 Янін В. Л. Назв. тв. № 384, 385—388, 389, 390, 392—395.

4 Gumowski M., Pieczecie Ksiazat Litewskich. Ateneum Wilenskie. Wilno, 1930. Rocznik VII, z. 3—4.

5 Арсеньев Ю. В. Геральдика. М., 1908. С. 191—192.

6 Gumowski M. Назв. твор. С. 37.

7 Жмудзь, Жамойць, Самагіція.

8 Прыкладна тая ж геральдычная сітуацыя адлюстравана і на вялікай пячатцы яго сына — Жыгімонта Аўгуста, далей Стэфана Баторыя і шэрагу іншых, аж да апошняга караля Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

9 АЗР. Т. І. С. 120.

10 АЗР. Т. 3. С. 179.

11 Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Мн., 1990. С. 313.

12 Длугош Я. Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962. С. 90—91.

13 Падрабязней на тэму гэтых варыяцый раім паглядзець: Артыкул "О древних гербах литовско-русских" //Виленский вестник. 1865. № 72.

14 MAGAZIN fur die neue Historie und Georaphie, angelegt von D. Anton Fridrich Busching. Halle, 1782, T. XVI, s. 113—118.

# У ЦЕНЮ ДВУХГАЛОВАГА АРЛА

Гісторыя герба Пагоня не спыняецца з падзеламі Рэчы Паспалітай і далучэннем беларускіх зямель да Расійскай імперыі. Гэты герб працягваў уплываць на нацыянальную свядомасць, атаясамліваецца з канкрэтнымі зямлёй і народам і актыўна функцыяніраваць у канцы XVIII і XIX ст., знаходзячыся ў ценю двухгаловага расейскага арла.

Пасля захопу ўсходняй часткі Беларусі (ВкЛ) Расійскай імперыяй (1772 г.) царскі ўрад пастанавіў стварыць Палявы гусарскі беларускі полк. У 1775 г. ён быў укамплектаваны "да поўных шасці эскадронных штатаў нацыянальнымі людзьмі зноў далучанай да Расеі па першаму падзелу Польшчы — Беларускай губерні" [1]. Гэты полк атрымаў у наступным годзе ўласны штандар з гербам, дзе шчыт падзелены на два полі: у горным, залатым, выява чорнага двухгаловага арла, а ў "дольнай чырвонай частцы выява Літоўскага ўзброенага ездака на белым кані з уздзетай шабляй" [2]. Колер палкавога штандара быў белы. Беларускія гусары былі апрануты ў чорныя дуламы (кароткія курткі са стаячым каўняром) і чорныя чакіры (вузкія гусарскія нагавіцы), уся форма была расшыта жоўтымі матузкамі і сярэбранымі гузікамі. Ківер быў упрыгожаны белым шэрсцяным бантам [3]. Гэты бант замацоўваўся да ківера стужкай. Якога колеру гэтая стужка, невядома, бо ў апісанні формы яна не агаворана, а літаграфія сярэдзіны мінулага стагоддзя, на жаль, чорнабелая. Але, мы мяркуем, яна (стужка) мусіць была чырвонай: таму што адпаведна з правіламі геральдыкі менавіта на гэтыя колеры раскладаецца герб Пагоня.

Былі таксама і ротныя сцягі, якія адрозніваліся ад палкавых тым, што першыя былі, як правіла, белыя, а другія паласатыя, пры гэтым палосы ўстанаўліваліся па жаданню камандзіраў. Адпаведна з уставам, на палкавых штандарах размяшчаўся дзяржаўны герб, а на ротных — палкавы. Можна зрабіць спробу рэканструяваць ротныя сцягі. Як нам здаецца, хутчэй за ўсё яны былі пяціпалосныя, двухраговыя, са спалучэннем белых і чырвоных колераў, згодна з правіламі геральдыкі. Вядомы таксама вопісы палкавых сцягоў Грузінскага гусарскага палка і Украінскай дывізіі, якія ў 1766 г. атрымалі такія зялена-белыя паласатыя сцягі [4].

На жаль, да нашых дзён не збераглiся ні гэтыя, а ні сцяг беларускіх гусар XVIII ст., полк якіх праіснаваў з 1776 да 1783 г., калі ён быў перайменаваны ў Варонежскі.

Прыкладна ў той жа час (70-ыя гг. XVIII ст.) быў створаны і Полацкі Мушкецёрскі полк. Ён



Афіцэрская шапка 17-га Уланскага палка. MWPN 1234 x

атрымаў у якасці герба на баявы сцяг рассечаны шчыт: у правым залатым полі — выява паловы чорнага расейскага арла, у левай, чырвонай, — Пагоня. У 1790 г. снежня 11-га дня, сувораўскія "чудо-богатыри" ўзялі штурмам і аваладалі аплотам Асманскай імперыі — крэпасцю Ізмаіл. А. В. Сувораў пісаў: "Крэпасць Ізмаільская, так умацаваная, такая вялікая і якая здавалася непрыяцелю непераможнаю, узята страшэннай для яго зброяй расейскіх штыкоў". Галоўная роля ў гэтай перамозе належала менавіта полацкім мушкецёрам, якія першымі ўварваліся ў крэпасць. Падзея такога значэння яшчэ доўга хвалявала розумы ўсёй Еўропы. Нават у паэме Д. Г. Байрана "Дон Жуан" успамінаюцца няведаючыя страху полацкія палкі.

У час панавання імператара Паўла I, які змяніў на Расейскім прастоле сваю маці — Кацярыну II, быў праведзены шэраг рэформаў, што скасоўвалі пэўныя кацярынінскія дзяржаўныя ўстановы. Замест Віцебскай і Магілёўскай губерняў была створана адна аб'яднаная — Беларуская. У 1796 г. Указам Сінода і Сената Беларускаму Губернскаму Праўленню было загадана: "противу приложеннаго при оном рисунке герба" ва ўсіх месцах, дзе прадпісаны былі расейскія гербы, замест "нынешних" вывесіць новыя (Паўлаўскага ўзору. — *А. Ц.*). Імператарскі герб таксама мусіў быць і на пячатках. Далей у гэтым "Указе... гаварылася: "...то как во всяком уездном городе рещиков (пячатак. — *А. Ц.*) наитится не может для того к вырезанию для всех по губернии мест и чинов с изображением новаго

Герба печати подрядить здесь в Городе Витебске рещика..." [5]. Выконваючы пецярбургскі указ, знайшлі, праўда, не ў Віцебску, такога "рещика" пячатак. Гэта быў, як відаць з ягонага прашэння ад 14 кастрычніка 1799 г., магілёўскі абывацель Орлік Абрамавіч Лурье, які падрадзіўся выразаць 132 пячаткі для прысутных месцаў Беларускай губерні. Ён атрымаў разам з "урадавым загадам" і распараджэнне працадаўцы (магілёўскага каменданта палкоўніка Бістрама), каб на пячатках быў выразаны "не московский, а *белорусский* (падкрэслена намі. — *А. Ц.*) Герб" [6].

Выява Пагоні фігуруе не толькі на пячатках дзяржаўных установ і баявых штандарах XVIII ст., яна працягвае крочыць праз дзесяцігоддзі і ў XIX ст.

У час вайны 1812 г. на баку французскіх войскаў выступіла 100 тыс. жыхароў былой Рэчы Паспалітай, з іх прыкладна 20 тыс. былі ўраджэнцамі "Літвы". З апошніх было створана 5—6 палкоў пяхоты і 4 кавалерыйскіх, не лічачы полк гвардыі. Гэтая старонка амаль не вывучана гісторыкамі, але вядома, што, напрыклад, 17-ы кавалерыйскі полк, якім камандаваў Міхаіл Тышкевіч, фарміраваўся як у ваколіцах Вільні, так і, галоўным чынам, з ураджэнцаў Мінскай губерні. Іншы 19 кавалерыйскі полк, які ўзначальваў Раецкі,— камплектаваўся на Навагародчыне [7]. Дзеля справядлівасці адзначым, што найбольшы гераізм у Барадзінскай бітве 26 жніўня 1812 г. праявіла 24-ая пяхотная дывізія, якая, змагаючыся на баку рускіх, абараняла славутую батарэю Н. Н. Раеўскага. Яна была сфарміравана з рэкрутаў — ураджэнцаў Мінскай губерні [8].

У "Ваеннай песні Літвінаў", якую спявалі ў 1812 г., былі такія словы: "будзь разам з Пагоняй магутным".

На захаваўшайся пячатцы ўжо згаданага 17-га кавалерыйскага палка, на грудзях аднагаловага польскага арла была размешчана Пагоня.

Герб Пагоня не быў чужынцам і ў шэрагу вайсковых часцей, якія падпарадкоўваліся Расейскаму камандаванню. Сцягі лейб-гвардыі Гродзенскага гусарскага палка ўпрыгожваюцца гэтым сімвалам адпаведна з указам ад 19 верасня 1827 г.Яны выглядалі наступным чынам: "...на белым шоўкавым штофе квадратнай формы, абшытым з трох бакоў срэбранымі махрамі, па краях шытыя срэбром лаўры, на рагах вензелі Мікалая I, з каронамі, а ў сярэдзіне двухгаловы арол, на персях якога шчыт малінавага і зялёнага аксаміту з выявай на ёй літоўскага вершніка. Пад арлом вышытыя срэбром літары Л. Г. Г. Г. П. Над дрэўкам штандара — шар, на якім двухгаловы арол з святым Георгіем у шчытку" [9].



Шчыт аб'яднаных гербаў Беларускіх, 1857 г.



Герб Полацка



Герб Віцебска



Герб Мсціслаўскі

Гэтая вайсковая часць пачала фарміравацца ў 1824 годзе з ураджэнцаў "літоўскіх" губерняў, а таксама з часткі чыноў Клясціцкага палка, які да 1824 г. насіў назву Гродзенскага гусарскага. У 1807 г. ён наводзіў жах на напалеонаўскіх салдат, называўшых гродзенцаў "сінімі гусарамі" па колеру іхняй формы. Асабліва праславіўся гэты полк у Айчынную вайну 1812 г., менавіта яму належыць слава першых перамог над французскімі войскамі ў бітве пад Друяй (3 ліпеня, ст. стыль), пад Клясціцамі (18—20 ліпеня ст. стыль), дзе быў смяротна паранены адзін з самых папулярных герояў Айчыннай вайны ўраджэнец Віцебшчыны, камандзір Я. П. Кульнеў. Напалеон, даведаўшыся аб яго смерці, паслаў у Парыж вестку аб тым, што "генерал Кульнеў, адзін з лепшых афіцэраў рускай лёгкай кавалерыі, забіты пад Дрысай".

Далейшы баявы шлях палка праходзіў праз "бітву народаў" пад Лейпцыгам (у кастрычніку 1813 г.). Апошняя кропка ў вайне з Напалеонам была пастаўлена таксама гродзенцамі. 19 сакавіка (ст. стыль) 1814 г. у 9 гадзін раніцы Гродзенскі гусарскі полк на чале авангарда першым з рускай арміі прайшоў праз "сталіцу свету" (як тады звалі Парыж). Што датычыцца лейб-гвардыі Гродзенскага гусарскага палка, дык ён здабыў сабе гонар, калі першым увайшоў у вызваленую ім у час руска-турэцкай

вайны 1877 — 1878 гг. Сафію, дзе іх шчыра віталі ўдзячныя браты-славяне. На малінавых з белым гусарскіх ківерах была выява двухгаловага арла з літоўскім ездаком на персях.

У розныя гады пад штандарамі гродзенскіх гусар і лейб-гусар служылі Я. Кульнеў; паэт-гусар Д. Давыдаў; член "Саюза благадзенствія" дзекабрыст М. С. Лунін, разжалаваны з падпалкоўнікаў у радавыя і памершы на царскай катарзе (1845 г.); М. Ю. Лермантаў і іншыя.

Але былі і ганебныя старонкі ў гісторыі палкоў: удзел у падаўленні паўстанняў 1831 і 1863 гг. на тэрыторыі ўласна Польшчы. На заключэнне адзначым, што з 16 гусарскіх палкоў Расеі толькі два насілі назву лейб-гвардзейскіх: полк "Его Величества" і Гродзенскі.

Герб Пагоня знайшоў сваё адлюстраванне не толькі на штандарах вайскавых часцей, што фарміраваліся з ураджэнцаў Беларусі, але і на дзяржаўным гербе Расеі.

У канцы 50-ых гг. мінулага стагоддзя быў распрацаваны вялікі герб Расійскай імперыі, дзе на крылах царскага арла былі размешчаны аб'яднаныя шчыты розных зямель. Сярод іх былі і звязаныя з былой тэрыторыяй Вялікага княства Літоўскага. Першы — "шчыт аб'яднаных гербаў княстваў Беларускіх", на якім былі прадстаўлены тры гербы: Полацкі, Віцебскі і Мсціслаўскі (праўда, апошні можна поўнасцю аднесці да позняга тварэння Дэпартаменту Ге-



Шчыт аб'яднаных гербаў Паўн.-Зах. Расеі, 1857 г.



Герб ВкЛ



Герб Самагіціі (Жмудзі)



Герб Беластоцкай вобласці

рольды). На Полацкім і Віцебскім былі ўзноўлены выявы традыцыйных гербаў гэтых зямель, адпаведна ў сярэбраным і чырвоным палях.

Аналагічна пабудаваны і другі "шчыт аб'яднаных гербаў княстваў і абласцей Паўночна-Заходняй Расеі". На ім гербы Вялікага княства Літоўскага, Самагіціі (Жмудзі) і Беластоцкай вобласці. У яго першым афарбаваным чырвоным полі, як і на папярэднім шчыце, — выява Пагоні. У трэцім, перасечаным, у верхняй частцы срэбраны аднагаловы (польскі) арол, у ніжняй зноў-такі Пагоня (як мы адзначылі, Падляшша-Беласточчына была анексіравана Каронай Польскай перад заключэннем Люблінскай уніі ў 1569 г.) і, нарэшце, у другім полі — герб Самагіціі з выявай чорнага мядзведзя [10].

Некалькімі дзесяцігоддзямі раней А. Міцкевіч у сваёй бессмяротнай паэме "Пан Тадэвуш", дзеі якой разгортваюцца ў пачатку XIX ст. на Навагрудчыне ("Літве"), гаворачы аб наступнай вайне Напалеона з Расеяй, пісаў: "... Няхай заіржыць тут пагоня, на Жмудзі вядзмедзь хай раўне!" [11]. Нам здаецца, што ў гэтых радках паэт абапіраўся як на яшчэ жывую тады геральдычную традыцыю, так і на гістарычную памяць сваіх сучаснікаў і землякоў.

У паўстанні 1863 г. герб Пагоня ў спалучэнні з "Арлом Белым" стае сімвалам нацыянальна-вызваленчай барацьбы за дэмакратычную перабудову грамадства. Царскі сатрап Мураўёў-вешальнік аддаў распараджэнне аб забароне нашэння жалобных і рэвалюцыйных знакаў — чорных шапак з белымі султанамі, спражак з аб"яднаным гербам Польшчы і Літвы [12].

Такім чынам, герб Пагоня ў XIX ст. з'яўляецца, з аднаго боку, сімвалам як афіцыйнай тэндэнцыі, з другога — неафіцыйнай — рэвалюцыйна-дэмакратычнай. Але ва ўсіх выпадках ён атаясамліваецца з канкрэтнай тэрыторыяй, тэрыторыяй сучаснай Беларусі, хаця часта называецца "Літоўскім".

У XIX ст. беларускімі губернямі лічыліся Віцебская, Магілеўская і Смаленская, якія адыйшлі да Расіі ў час першага падзелу ці раней, а "літоўскімі" — Менская, Гродненская і Віленская, пазней толькі дзве апошнія, тэрыторыя якіх ахоплівала большую частку поўначы і амаль увесь захад сучаснай Беларусі. Гэта знайшло свой адбітак і ў губернскіх гербах. Гродзенская атрымала свой першы герб у 1802 г. з выявай Пагоні ў горнай частцы шчыта, а ў дольнай — зубра, потым пры наступным "рэдагаванні" гербаў (у 1845 г.) быў пакінуты толькі зубр. Акрамя яе, Пагоняй карысталіся Віленская і Віцебская губерні. У 1845 г. пачынаецца даволі шырокае наданне павятовых гербаў. Яны, з аднаго боку, падкрэслівалі іх належнасць да адпаведнай губерні, што паказвалася



Герб Віцебска, малюнак 1861 г.

праз размяшчэнне ў галоўнай частцы шчыта губернскага герба, а ў падпарадкаванай, ніжняй, эмблемаў, якія, на думку іхніх стваральнікаў, адлюстроўвалі пэўныя асаблівасці паветаў. Гэта перш-найперш кранула Ашмянскі, Вілейскі, Дзісненскі, Лідскі паветы Віленскай губерні, што атрымалі гербы з Пагоняй у горнай частцы. Паколькі гербы іншых беларускіх гарадоў ужо да гэтага часу былі перайначаны і не былі падобны на папярэднія, а тым больш на ваяводскія, таму і з астатніх павятовых гербаў Пагоня знікла. Але яна засталася на тых, якія былі ўведзены царскім урадам адразу пасля анексіі Усходніх зямель Вялікага княства Літоўскага. Новыя расейскія ўлады пачалі шырокую кампанію з мэтай знішчэння мясцовых адметнасцей і падвядзення ўсяго духоўнага жыцця пад агульнадзяржаўны капыл.

Адным з першых такіх мерапрыемстваў было навязванне новых гербаў гарадам Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў.

Гістарычныя гарадскія гербы гарадоў усходняй часткі Беларусі былі заменены агульна-дзяржаўным гербам Пагоня. У кожным з нованададзеных гербаў шчыт быў падзелены на дзве часткі: у верхняй, па геральдычных паняццях "пануючай", размяшчаўся двухгаловы расейскі арол, а ў дольнай, "падпарадкаванай" — Пагоня. У выніку гэтыя гарадскія гербы, з аднаго боку, дэвальвавалі прынцыпы індывідуальнасці кожнага былога магдэбургскага месца, з другога — падкрэслівалі іхняе залежнае становішча ад расейскага царызму і адначасова псавалі настрой жыхарам той часткі дзяржавы, якая яшчэ не была захоплена Расеяй, бо герб Пагоня, які на захад ад расейска-"польскай" мяжы пачытаўся як сімвал дзяржаўнага суверэнітэту, на ўсходзе быў нізведзены ў стан падпарадкаванага. На захадзе ён быў гонарам і сведчаннем дзяржаўнасці, а на ўсходзе яго пераўтварылі ў гарадскі ці

нават местачковы сімвал, за якім не стаіць аніякіх гарантыяў правоў мяшчан, якія ім карыстаюцца. Такім быў галоўны змест надання гарадам усходняй Беларусі выявы дзяржаўнага герба не да канца заваяванай краіны. Як адзначае сучасная расейская даследчыца Н. Собалева, "гербы (расейскія, — *А. Ц.*)...ствараліся перш-найперш у інтарэсах вярхоўнай дзяржаўнай улады, з'яўляючыся адзнакай, пры дапамозе якой адлюстроўваліся і выражаліся прынцыпы пэўнага накірунку ў палітыцы царызму" [13].

Ну, а аб "накірунку" мы пісалі вышэй. Тым не менш, нягледзячы на тое што гэтыя гербы часта насілі штучны характар і былі уніфікаваны па агульнаму ўзору ў адрозненне ад магдэбургскіх, яны зафіксавалі не гарадскія асаблівасці праз сімволіку, а спрадвечны зямельны сімвал.

Гэтая тэндэнцыя найбольш яскрава адбілася на гербах Віцебскай і Магілёўскай губерняў, колішняй радзіме Пагоні. Усяго царскім урадам было нададзена дзевяць гарадскіх гербаў з яе выявай гарадам, што зараз знаходзяцца ў межах Рэспублікі Беларусь.

Адлюстраванне старажытнай Пагоні на беларускіх губернскіх, павятовых, гарадскіх, вайсковых гербах было з'явай, якая канстатавала асэнсаванне суседнімі народамі тоеснасці паняццяў геаграфічна-этнічнага Беларусь і геральдычнага Пагоня.

**ЛІТАРАТУРА**


1 Федотов А. И. История Белорусцев. Варшава, 1903. С. 22.

2 Висковатов. Историческое описание одежды и вооружения российских войск. Спб., 1899. Ч. 5. С. 15.

3 Тамсама. С. 6·

4 Тамсама. С. 479—480.

5 ЦДГА БССР у г. Мінску. Ф. 3219, воп. 1, справ. 1366, арк. 1—2.

6 Тамсама, арк. 17.

7 Tyszkewiciana. Millitaria. Bibliorafia... ets. zebral Iozef Tyszkewicz. Poznan, 1903, s. VII, XI, XII.

8 История Белорусской ССР. Мн., 1977. С. 93.

9 Елец Ю. История лейб-гвардии Гродненского гусарского полка. Выд. 2-е. Спб., 1898. С. 56.

10 ПСЗРИ. Собр. II, Т. 32, отд. 1, № 31720.

11 Адам Міцкевіч. Пан Тадэвуш. Пераклад Б. Тарашкевіча. Мн., 1981. С. 131.

12 Инструкция от 25. V. 1863 г. Сборник распоряжения графа М. Н. Муравьева по усмирению польского мятежа в Северо-Западных губерниях 1863 — 1864 гг. /Сост. Н. Цыплаков. Вильна, 1866.

13 Соболева Н. А. Российская городская и областная геральдика XVII — XIX вв. М., 1981. С. 150.

## НОВЫЯ ЧАСЫ

Катаклізмы першай сусветнай вайны, Лютаўская рэвалюцыя і Кастрычніцкі пераварот далі новы імпульс, штуршок і накірунак у развіцці нацыянальна-вызваленчага руху ва ўсёй Еўропе. Не абмінуў гэты працэс і Беларусь. У сакавіку 1918 г. была аб'яўлена незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пры адраджэнні нашай дзяржаўнасці ў 1917 — 1918 гг. сама сабой абазначылася і роля Пагоні як дзяржаўнага гербу. Праўда, гэта адбылося зусім стыхійна і, наколькі вядома, не было замацавана ніякім заканадаўчым актам, у якім быў бы кананізаваны ў якасці дзяржаўнага гербу адзін адменнік Пагоні і мелася апісанне ўсіх ягоных дэталяў [1].

Яшчэ раней ідэю вяртання да спрадвечнага нацыянальнага сімвала ў паэтычнай форме выказаў Максім Багдановіч. Як згадваў А. Смоліч, "па сканчэнню ліцэю ў восень 1916 г. М. Багдановіч прыязджае на службу ў Менск. Надмерная праца пагоршыла стан яго слабога здароў'я. У гарачцы, пры высокай тэмпературы быў напісаны верш "Пагоня". Расказваючы аб гэтым за абедам А. Смолічу, паэт з сумнай усмешкай дадаў "у гарачцы пішацца легка" [2].

Выява Пагоні размяшчалася на пячатках розных устаноў БНР. Нягледзячы на тое што Беларуская Народная Рэспубліка была знішчана бальшавікамі, а сама Беларусь разрэзана на дзве часткі (БССР і Заходнюю Беларусь), ідэя сімвала засталася жыць.

Узнікшая ў гэты час Літоўская Рэспубліка абрала старажытны славянскі герб у якасці дзяржаўнага. Такім чынам праз прысваенне чужога герба адлюстроўваліся імперскія памкненні літоўскай буржуазіі на спрадвечныя беларускія землі. Нельга не сказаць, што ў законнай сталіцы Літвы — Коўне не разумелі двухсэнсоўнасці становішча. ‹Гэтыя званыя "ліцьвіны", як пісаў Альгердзіч, фактычна жмудзіны, не маюць ніякага дачынення да нашае Пагоні. Гэта ўсведамлялі нават шмат якія дзяржаўныя дзеячы... "Літоўскае" рэспублікі, публічна сцвярджаючы патрэбу змены Пагоні як дзяржаўнага гербу Літвы". У 1935 г. тагачасны прэм'ер "Літоўскае" рэспублікі Тубаліс у сойме афіцыйна прызнаў ня "літоўскае" паходжанне Пагоні, заявіўшы, што працуецца над стварэннем арыгінальнага гэрбу›. Варта канстатаваць, што новы праэкт не быў ажыццёўлены — наступныя бурхлівыя падзеі заўчасна прыпынілі працу над ім.

У час другой сусветнай вайны фашыстоўскія акупацыйныя ўлады "літасціва дазволілі" беларусам карыстацца іхнімі ўласнымі сімваламі. У дакуменце, падпісаным гаўляйтэрам Вільгельмам Кубэ 27 чэрвеня




Пячатка дэлегацыі Найвышэйшай Рады БНР




Пячатка Менскай Беларускай гімназіі




Пячатка Міністэрства абароны БНР




Пячатка Беларускай Цэнтральнай Рады

1942 г., было адзначана, што беларускімі нацыянальнымі знакамі і эмблемамі лічацца: а) Беларуская нацыянальная Пагоня; б) бел-чырвона-белы сцяг. Апеляцыя да нацыянальных пачуццяў беларусаў не дала пажаданых вынікаў. На Беларусі зямля гарэла пад нагамі акупантаў. Але выкарыстанне жменькай калабарантаў нашых сімвалаў і эмблем дало падставы для шматлікіх палітычных спекуляцый у дачыненні да герба Пагоня яшчэ амаль на паўстагоддзя.

Пасля перамогі адной таталітарнай (бальшавіцкай) сістэмы над іншай — фашыстоўскай герб Пагоня, здавалася, зноў аддадзены на поўнае забыццё. Савецкая сістэма, імкнучыся ніверліраваць поўнасцю адметнасці і асаблівасці народаў, вельмі рэўніва ставілася да праяў нацыянальнай самасвядомасці ўсіх народаў. Стандартызацыя, замена нацыянальных сімвалаў на класавыя,— была адной з галоўных задач усёй прапагандысцкай машыны.

Крах таталітарнай дзяржавы і абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь далі, нарэшце, магчымасць аб'яднаць усе функцыі герба ПАГОНЯ, як зямельнага і нацыянальнага, і вярнуць яму яшчэ яго колішні статус герба Дзяржаўнага. Гэтая падзея адбылася 19 верасня 1991 г.

**ЛІТАРАТУРА**

[1] Альгердзіч Г. Нашы нацыянальныя эмблемы // Раніца. 1944. 22 лістап. — 10 снеж.
[2] Звязда. 1927. № 122.

*На вокладцы* — Дзяржаўны Герб Рэспублікі Беларусь і герб Пагоня з паштоўкі часоў БНР.

*На другой старонцы вокладкі* — Вострая Брама ў Вільні.

*На трэцяй* — амуніцыя Беларускіх вайсковых аддзелаў Расейскай арміі (канец XVIII — пачатак XIX ст.)

*На апошняй* — герб Пагоня з гербоўніка Э. Коміна.

*На тытуле* — праект Вялікага Дзяржаўнага Герба Беларусі, выкананы мастаком А. Бажэнавым па матэрыялах і пад навуковым кіраўніцтвам А. Цітова.



